КАСТУСЬ ІЛЬЮШЧЫЦ НАРАДЗІЎСЯ
Ў ВЁСЦЫ РОГ САЛІГОРСКАГА РАЁНА
Ў 1947 ГОДЗЕ.
У 1968 ГОДЗЕ СКОНЧЫЎ
БЕЛАРУСКІ ТЭХНАЛАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ
ІМЯ С. М. КІРАВА.
У ТЫМ ЖА ГОДЗЕ
БЫЎ ПРЫЗВАНЫ
Ў РАДЫ САВЕЦКАЙ АРМІІ,
З ЯКОЙ НАЗАЎСЁДЫ
ЗВЯЗАЎ СВОЙ ЛЁС.
ВЕРШЫ ПАЭТА ДРУКАВАЛІСЯ
Ў «МАЛАДОСЦІ»,
«ДНІ ПАЭЗІІ»,
У ШТОТЫДНЁВІКУ
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»,
У НАШАЙ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ПЕРЫЯДЫЦЫ.

ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТА

Кастусь Ільюшчыц

# АРМЕЙСКІЯ БУДНІ

**Вершы**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1977

# МАЯ ЗЯМЛЯ

* * *

А вы былі ў лясах сасновых
І заблудзілі хоць калі,
Дзе сустракаюць старасць совы
І глуха стогнуць на галлі?!.

А я не раз шукаю ветра,
Што дзьме з палескай стараны,
Дзе так настоена паветра
Гаркавым ёдам той вайны.

Лячу, як птушка,
На Палессе
Пад сосны цёплыя,
Як сны,—
Па іх запевы новых песень,
Такіх дрымучых і лясных.

І сэрца зойдзецца ад шчасця,
Што ёсць з усіх адзіны кут,
Які наведваю не часта,
З ім ростань —
Горшая з пакут.

А ён знаёмы да драбніцы,
І зведаць хочацца другі.

Там, можа, лепшыя крыніцы,
Там, можа, лепшыя лугі?

І толькі будзе вечным дзівам,
Не разгаданаю зямля,
Дзе пачыналася Радзіма,
Лясная,
Добрая,
Мая.

## ПАЛЕШУКІ

Праз багну —
Камарыныя надзелы,
Праз малярыйны мох,
Праз лес глухі
Калісь з надзеяй тайнаю глядзелі
У сённяшнія дні палешукі.

Мой прашчур жыў заўсёды шчасцяверам.
Плячысты, рослы,
Як Удовін сын,—
Ці на паноў вастрыў сваю сякеру,
Ці за касою набіраўся сіл.

Я прызнаюся з гонарам на людзях,
Што я з мясцін палескіх,
Паляшук,
Дзе махляроў і лайдакоў не любяць,
Дзе пазнаюць сваіх
Па моцы рук.

І вось цяпер
Праз лес капроў і вышак
Яны ідуць да сонца, землякі.
Зямля балот!
Цябе за горы вышай
Узнімуць на руках палешукі!

## КЕДРАВЫЯ АРЭХІ

Прадай, латочніца, арэхаў
І пах зялёнае тайгі...
Як мне шкада,
Што не паехаў
Туды,
Дзе сопкія снягі.

Дзе пад вятрамі стогнуць кедры,
Дзе шлях пракладваюць сябры,
Свае праклясці б кіламетры
Праз рэкі, горы і бары.

А дзень патрэсквае ад спёкі,
А дзень прапах
Густой смалой...
Мне край халодны і далёкі
Узняў юнацкі неспакой.

Апоўначы сябры прысняцца...
Зайздросціць буду ім да слёз,
Што за мужчынскай цяжкай працай
Мяне там кожны перарос.

А ім успомняцца арэхі,
Што дома рана зацвілі;
Лавіць ім
«Спідалаю» рэха
З будоўляў роднае зямлі.

* * *

Я вырас там,
Дзе лес кранае
Аблокаў светлыя чубы.
Там на руках,
Над родным краем,
Мяне падкідвалі дубы.

Мой кут,
Здавён-даўно абжыты,
Навек запомніўся такім:
Сляпіла сонечнае жыта
І ні хмурынкі па-над ім.

Жанчыны ўвішныя за рэчкай
Зграбалі лета
У стагі;
Бялела поле, што пад грэчкай,—
Нібы над ім прайшлі снягі.

І песня выплывала з гаю,—
Такая будзе вечна жыць...
Шчаслівы я,
Што родам з краю,
Дзе мова матчына гучыць.

## ХЛЕБАРОБ

Яму штоноч здаецца мулкай,
Да ніткі выстылай пасцель.
І сэрца б'ецца гулка-гулка,
І неспакой,
Як гром, расце.

Ён выйдзе з хаты
Напрадвесні
І паглядзіць удаль з двара,
А там праз вымаклы бярэзнік
Паціху крадзецца зара.

І будзе думаць
Не пра вечнасць,
А пра сяўбу і дзень зямны,—
І снег яму запахне грэчкай,
А сонца —
Хлебам аржаным.

Учуе рэк санлівы рокат,
Кажух расшпіліць спакваля,
Уздыхне так вольна і шырока,
Нібы ўзараная зямля.

* * *

Нашто цябе сярод зімы
Будзілі раннія грамы,
Хмяліла ласкаю вясна
І ты не спала да відна?

А ранкам бегла па ваду,
Глядзець:
Ці праўда, што іду?
Іскрыўся снег.
Рыпеў мароз.
Пазёмкай
Дзень у вёску поўз.

Я не ішоў.
Міналі дні
Без цішыні,
Без цеплыні.
А ты, паверыўшы у сны,
Чакаеш стомлена вясны.

## НАЙДА

Вяскоўцы помняць плытагонаў,
Што лес сплаўлялі па Найдзè.
А я па ёй іду сягоння,
І не відаць вады нідзе.

Нагам замала ахалоды
Сярод высокіх берагоў...
Пад ілам тоўстыя калоды,
Як рэшткі колішніх плытоў.

Уміг рассеюцца сумненні:
Найда магутнаю была
І па спіне не раз бярвенні,
Нібыта сернікі, нясла.

На Прыпяць
Вынесла б напеўна
Каму вянок,
Каму вушак.
Ды толькі ў некага, напэўна,
Да кроплі высахла душа.

## ПЕРШЫ ПЕРАЛЁТ

Яны жар-птушкамі над вёскай
У промнях сонечных плывуць...
І вось чародка стала коскай
І ўпала дзесьці на траву.

А мне чуваць вясёлы клёкат
З далёкай,
Выстылай зямлі,
Дзе свята першых пералётаў
Спраўляюць юныя буслы.

## ХМАРЫ

Мой дзед казаў:
— З вялікай хмары
Заўсёды дождж ідзе малы.
У поўдзень
Так пярун ударыў,—
Аж гнуцца дрэвы
Да зямлі,

А на маім
Засмяглым твары
Па кроплі
Хмары праплылі.

Я палюбіў
Малыя хмары,
Што без грымот
І бліскавіц,
І самі
Сохнуць па абшарах,
Каб смагу ўдосталь
Напаіць.

## АСЕННЯЕ

Прыемна зноў блукаць між сосен,
Дзе лета выбілася з сіл,
І прымярае сукню восень
Ужо злінялую зусім.

Пад лапамі густой яліны
Апошні зрэжу баравік,
Па вымаклых слядах ласіных
У глуш пайду,
Дзе лесавік

Мяне палохаць будзе рэхам
І напрарочыць мне бяду,
А я зальюся звонкім смехам
І сонца ў хвойніку знайду!

## ТАПАЛІНЫ ПУХ

Лета зноў нагрэла горад.
Недзе ж —
Холад,
Белы снег,
І лістоў зялёны шоргат
Толькі ў марах,
Толькі ў сне.

Ну а тут не першым снегам —
Пухам
Ліпень вее мне.
Я са снегам
З лёгкім смехам
Развітаўся па вясне...

І плывуць хусцінкай белай
Тапаліныя снягі...
Першы ж снег
З табой нясмела
Ловіць вуснамі другі...

## ЛОСЬ

Ён быў стары,
Шыракабокі,
Стаяў па пояс у вадзе,
А ў ёй купаліся аблокі,
І лось глядзеў,
Глядзеў, глядзеў...

У гэты міг забыў пра гончых,
Што злосна рвалі цішыню.
Свае гады між сосен гонкіх
Убачыў ён упершыню.

Ён не хацеў жыццё трывожыць —
З разбітай пысы злізваў кроў.
І вецер глуха
Брэх варожы
Данёс з асмужаных бароў.

Я стрэліць мог —
Курок на ўзводзе,—
І лось не зробіць ні глытка,
А толькі ўсплёсне паўнаводдзе,
І шумна ўспеніцца рака...

Але не ўзняў я дубальтоўку,
Не замуціў ласю вады...
Не раз змагу
У лесе зноўку
Пакратаць цёплыя сляды...

## ДАЧКА ЛЕСНІКА

Я сцішуся раптоўна ў лесе —
Таемны загарыцца свет,
Нібы купрынаўскай Алесі
Жыве на баравіне след.

Яна тут бегла асцярожна,
І кліча след,
І ўдаль плыве.
Іду па ім на луг мурожны,
І ён губляецца ў траве.

Я знаю возера глухое...
Магчыма,
Там яе знайду,
І, можа, там
Плячо тугое
Хвалюе роўную ваду.

І там яна
Нырае плоткай —
Аж уздыхае
Глыбізна.
Ды нешта ўспомніўшы,
Дрыготка
На бераг выскачыць яна.

Уміг спалоханай касуляй
Пакіне рэдкія кусты
І паляціць,

Нібыта куля,
І згубіць грэбень залаты.

Купайся
Смела, белакоса,
Смужэй сабе на беражку...

Аднойчы ўбачыць давялося
Мне лесніковую дачку.

## ЛЕТА

Схавала пушча дождж вясёлы,
Зямля смяецца раўчуком.
А сонца ўцерлася вясёлкай,
Як вышываным рушнiком.

* * *

Двурогі месяц
Выплыў высака...
Мяне мурожная паляна,
Нібыта посцілкай нявысахлай,
Густым ахутала туманам.

І я пайшоў,
Умыты росамі,
Да вёскі стомленай хадою.
Каса спявала ўдзень аб восені,
Пах
Ціхі вечар
Сырадоем.

## РАБІНАВАЯ НОЧ

Не па-зямному стала ціха,
Аж чутна,
Як расце трава...
А потым хтосьці ў лесе чмыхаў,
І гучна плакала сава.

Па небе,
Каб да нас прабіцца,
Паўзлі чырвоныя шары.
І рэха блізкай навальніцы
Да нас данасілі вятры.

Сябры лажыліся трывожна,—
Нам не да сну цяпер было:
Вось шумна чохнуў
Дождж абложны,
Палатку бурай падняло...

Да дня
Маланка малаціла,
Да дня
Зямля вакол гула,
І парусіна
Так свяціла,
Як лямпа дзённага святла.

## ПАПАРЫ

То мякка
Позні гром ударыць,
То цёплым ветрыкам дыхне —
І лёгка
Дыхаюць папары
Ў маёй палескай старане.

Блішчыць,
Як возера лясное,
У полі свежая ралля...
Нібыта ранняю вясною,
Лянотна грэецца зямля.

Тлусцеюць хутка зерні ў глебе
Ад непрывычнай цішыні
І цягнуцца ўзляцець
Да неба
Зялёнай хваляй
Збажыны.

## ВОСЕНЬ

У сонцы дагарэла лета —
І павуціннем дым плыве,
А водбліск зарава ранетам
Ляжыць у скошанай траве...

## У ЛЕСЕ

У лес прыйшоў я ранкам мокрым.
Як ты падрос,
Мой добры бор!
Запахла божаю кароўкай,
Паўсюль чуваць птушыны хор.

Да дна
Настоен дзікім кропам
Спакой
Пустых, як стэп, палян...
А ў гушчары
З вайны акопы
Маіх вяскоўцаў-партызан.

Над імі
Нахіліўся ціха,
Застыў самотна
Цёмны лес.
Ён помніць дзён суровых ліха,
Парыпвае,
Нібы пратэз...

* * *

З нас кожны марыць аб планеце,
Аб неадкрытай анікім...
І я пайшоў блукаць па свеце,
За вёскай выламаўшы кій.

І дні цяклі,
Нібыта вечнасць.
І ў разгаданых
Мной краях
Засумаваў я невылечна
Па родных рэчках і гаях.

Я там
Сваё пакінуў сэрца,
Дзе цалаваў не раз зямлю,
Дзе піў ваду
З жывых азерцаў,—
З другіх
Я смагу не сталю.

Мой край
Як песня недапетая,
Мой край
Падобны на зару.
Жыве ўва мне
Адна планета,
Адна планета —
БЕЛАРУСЬ.

## ПАРА СЕНАКОСУ

На досвітку зоркі
Апалі расою,
Успыхнулі сонцам
На соннай траве.
Да снедання бацька заняты з касою,
І звон малатка
Ад суседзяў плыве.

Мне ломіцца ў вушы
Вясёлае рэха,
Гуляе за вёскай
Да позняй начы.
І поплаў
Разбуджаны радасным смехам,
І поплаў
Стракаты ад хустак жанчын.

І я сцежынаю,
Прапахлаю мятай,
Нібы ва ўспаміны,
Іду на лугі...
А вечарам стомлена
Бусел цыбаты
Садзіцца спачыць
Па чарзе
На стагі...

## ПЕРАД АДЛЁТАМ

Яшчэ не пахнуць печы хлебам,
А травы —
Познім малаком,—
Ды ўзнімуцца буслы
У неба
За несупынным важаком.

Акінуць позіркам палетак
Па-гаспадарску
З вышыні
І паляцяць на луг,
Дзе лета
Вывозяць людзі на кані.

Буслам каменнямі на крылы
Туга схаваная лягла.
Яны грудзямі
Луг накрылі
І не адчулі больш цяпла.

* * *

Дзяўчына цераз рэчку ўброд
Ідзе, нясмелая, наперад.
А позірк з-пад чарнявых броў
Ваду прамацвае, як невад.

А ледзь убок,
Дзе ліпкі глей,
Дзе трыснягі пад сонцам млелі,
Ад лёгкіх воблачак бялей
На хвалі
Выплылі лілеі.

Да іх кіруецца дзяўчо.
Адну сарве,
Затым другую...
Касу паправіць за плячом:
Хаця б не замачыць, даўгую!

І пасвятлее глыбіня;
Спалох
Адвернецца ў аерах
Ад вузкае палоскі дня
Вышэй каленак загарэлых.

Тапчу без жалю верасы,
У лес хаваюся далёка...
Спляценне ўбачанай красы
У сны мае
Прыходзіць лёгка.

* * *

Мне да купінкі знаёма
Сцежка дзікая ласёў.
Я смяюся тут над стомай
І цалую сінь лясоў.

На губах маіх —
Маліна,
Фарба спелая чарніц.
І бярозка,
Як дзяўчына,
Пацалунак мой прысніць.

Доўга сцежкаю блукаю,
Быццам нешта я згубіў.
Кветку-папарадь шукаю,
Дзе на шчасце
Лось трубіў...

* * *

Вясковыя хлопцы чубатыя,—
Не трэба ім зменлівых мод.
Затое і сонцам,
І мятаю
За лета прапахнуць —
На год!

У куфрах сарочкі зжаўцелыя
Чакаюць іх месяц,
Другі...
Пад сонцам
Іх твары спацелыя
Не знаюць святочнай тугі.

Іх
Горад на досвітку клікае
Тугім распарадкам сваім...
А поле,
Як неба, вялікае,
І жыта,
Як сонца, на ім.

І хлеба дыханне гарачае,
І подых даспелых вятроў...
Жыцця не ўяўляюць інакшага
Без гэтых
Палёў і бароў.

* * *

Завітае вясна ў лясы —
І прагалін
Бліщчаць паясы...

Заманіла мяне
Такавішча.
Там
Спрабуе вясна галасы
І на досвітку
Крыллямі свішча.

Там
Сасоннік глядзіць угару,
Там
Бярэзнік чакае зару
І з-пад ног —
Траў нясмелыя промні...

Я запомніў цябе,
Беларусь,
На зялёнае сонца
Падобнай!

# КВЕТКІ ЛЯ АБЕЛІСКАЎ

## А МЫ ЎСІМ ЖАДАЕМ ШЧАСЦЯ

А мы
Усім жадаем шчасця...
Свет знае
Сілу нашых слоў.
Цяпер не толькі
Дзверы насцеж,—
А насцеж —
Сэрцы для сяброў.

Не кволыя,
Не баязліўцы
З душой адкрытаю жывуць.
Глядзіце:
Птушкі
У байніцах,
Нібы ў шпакоўнях,
Гнёзды ўюць...

## САЛДАЦКІ ХЛЕБ

Мне піша матуля:
— Сынок,
Твой сябра ў горад падаўся.
На працу і з працы —
Званок...
Табе ж —
Хлеб другі спадабаўся.

Прыедзь...
Дом збудуе калгас
І светлыя вокны —
На поўдзень.
І жонцы палёгка:
Ёсць газ
І працу жаданую знойдзе.

Які напісаць ёй адказ?..
Я словы шукаю для роднай...
А ноччу атрыман загад:
Адбыць на вучэнні паротна.

Тут званні не ўлік.
Я — салдат.
Мой лёс
У трывогах і маршах.
Мне лепшае свята са свят,
Што сонца смяецца,
Як маршал.

## ПАШТАЛЬЁН

Я працаваў паўгода паштальёнам...
Кружыў, пятляў між хат,
Нібы ручай.
Разносіў пошту вулкаю зялёнай
І пенсіі салдаткам уручаў.

Жыве
У нашай вёсцы сум жаночы —
Удовы адзінокія зусім.
Жанчынам пісьмы сніліся штоночы,
А я штодзень газеты ім насіў.

І гэтак я палохаўся зацішша
У хатах без дзяцей і мужыкоў.
А гаспадыні частавалі вішнямі
З пасляваенных рэдкіх вішнякоў.

Мяне заўжды чакалі,
Нібы госця,
Праводзілі з адчаем у вачах.
А я не нёс галоўнага чагосьці,
Што ў думках бачылі яны
І ў снах.

Я працу здаў бязрукаму вяскоўцу,
Ён паштальёнам працаваў калісь.
Я добра знаю,
Як вясну і сонца
Раптоўна засціць
пахавальны ліст.

1917-ты

Нас дзень мінулы не трымае.
І хай.
Спакою нам не трэба.
Замала нам,
Што самі маем
Штодня да солі лусту хлеба.

Адчуем мы дыханне войнаў,
Што нехта зноў свабоду душыць,—
І нам ужо
Не жыць спакойна,
У нас такія, мабыць, душы.

Нам узаконіць
СПРАВЯДЛІВАСЦЬ
Даў права год,
Жыццём апеты.
І смела мы ідзём
Пад лівень
Трывог і радасцей планеты.

* * *

У траве густой —
Па пояс —
Затрашчалі звонка конікі.
Міма гаю,
Міма поля,
Як віхор,
Імчалі коннікі.

Ім насустрач беглі вольхі,
Мяккім ценем
Шлях ахутвалі.
У хлапцоў аж губы сохлі
Ад шалёнай конскай хуткасці.

За высокімі дубамі,
Дзе гамоняць вербы ніцыя,
Коні
Смяглымі губамі
Спакайнелі над крыніцамі.

Хлопцы падалі на травы,
Ад крыніц
Крыху азяблыя,
І аер ля іхніх твараў
Узнімаўся ўгору
Шаблямі.

* * *

На месяц здадзены турботы,—
Статут іх мне акрэсліў строга.
За год заношаныя боты
Ляжаць панура ля парога.

Наглянцаваны чаравікі —
Блішчаць на сонцы,
Быццам люстра.
Хаця і свет наўкол вялікі,
А без Палесся ў сэрцы пуста.

Лячу на ІЛе серабрыстым,
Лячу за дзесяць тысяч вёрстаў
У край азёрны і лясісты,
Дзе не лічыў
Шчаслівых вёснаў.

Там буду
Хмельны ад прычасця
Да першароднай прыгажосці.
Там маці
З добрым імем Насця
Мяне даўно
Чакае ў госці.

Нясуць у вёску людзі
Вестку,
Нясуць хутчэй,
Чым тэлеграма,

Што едзе ўнучак,
Сын,
Нявестка...
Дзень добры,
мама!

* * *

Ім цесным
Стане паднябессе
Над афрыканскай стараной.
І на радзіму,
На Палессе,
Стартуюць ранняю вясной.

Яны рассоўваюць аблокі,—
Нібы ракета,
Іхні клін:
Трымаюць курс
На лес высокі,
Дзе ўволю
Мёрзлых журавін.

І недзе там —
Чаканы вечар
І пах знаёмае зямлі...
Яны збяруць у небе веча,
І будзе радасным:
— Кур-лы.

О, непаўторнае здзіўленне —
Пачуць над шапкамі імхоў,
Як ціха
Робяць прызямленне
Дэсанты
Першых журавоў.

## ВАРАЖБІТКА

Я помню хату варажбіткі,
Што трэцяй з водшыбу была.
Там маладзелі ўвачавідкі
Удовы нашага сяла.

Свой лёс убачыўшы на картах,
Дзвярыма грукалі яны
І беглі тых чакаць упарта,
Што не вярнуліся з вайны.

Сама ж
Яна
Сярод маўклівых,
Нядаўна выбеленых сцен,
Зноў разбірала сіратліва
Неразабраную пасцель.

У варажбіткі вочы жухлі —
І толькі тым
яна жыла,
Што хоць надзеі векавухі
Жанкам
На шчасце аддала.

* * *

Штурмуюць войскі палігон...
Ідуць вучэнні дзень каторы.
Прайшлі мы
Праз віры,
Агонь,
Дадуць загад —
Усё паўторым.

А тут сігнал:
— Глушы матор!..
І кухні дым...
Прывал вялікі...
Лагчына схоўвае прастор,
Які нядаўна ўдалеч клікаў.

Вакол зямная цішыня...
Ніхто не б'е агнём прыцэльным,
Нібыта вымерла вайна
І мір, і мір
У свеце цэлым.

Ва мне ж не моўкне
Ні на міг
І гнеў правінцыі Хаціні,
І анямелы стогн Сангмі,
І скамянелы боль Хатыні.

* * *

Я службы пазнаваў асновы...
Сержант,
У полі жывучы,
Вучыў капаць зямлю нанова
І поўзаць па зямлі вучыў.

Неабстраляны і зялёны,
Што ні каманда —
Пераплёт,
Я да крыві сціраў далоні,
Цішком
Пілоткай змахваў пот.

Сержант —
Равеснік мой — няўмольны,
Секундзе кожнай знаў цану
І перакур лічыў крамольным,
Калі хтось раптам сачкануў.

Страляў,
Акопваўся лапатай;
Маскіраваў траншэй вянкі.
Пляскала мора
Між лапатак,
Сцякалі з твару
Раўчукі.

І вось трывога сярод ночы...
Дэсант на лодках праз раку.

Гармат успышкі
Слепяць вочы
На тым,
«Нянашанскім», баку.

І сустракаў нас
Не па-свойску
Плацдарм на беразе чужым.
Грудзьмі мы прыкрывалі войска,
Спяшалі
Поспех даць другім.

І быў загад нам:
— Акапацца!
Зрадніцца з берагам хутчэй.
Была нялёгкай наша праца,
Каб утрымаць плацдарм лягчэй.

Сляпіла злосць ці пот —
Не помню,
Я стаў відушчым,
Не аслеп.
І вырастаў у профіль поўны
Акоп.
Акоп — не змрочны склеп.

Мы адбівалі зноў атаку...
Руку гранаты занялі.
Як яшчар,
Поўз насустрач танку
Па цёплай,
Па сваёй зямлі.

І, перамогшы танкабоязь,
Я перамог у байцы той
І ганарыўся пасля бою
Салдацкай вытрымкай сваёй.

Нясу я мір усёй планеце.
Паверце мне.
Але пакуль
У гэтым неспакойным свеце
Знаходзяць людзі смерць ад куль,—

Мне не забыць набыты вопыт
(Я рунь расціў, араў палі):
Пад посвіст куль капаць акопы
І па-пластунску —
Па зямлі!

* * *

Граніцы слухаю дыханне,
Лаўлю зямныя галасы.
І даспадобы мне
Маўчанне,
Спакой
Нейтральнай паласы.

А там за ноч яшчэ акоп
Прабіў зляжалую іглíцу.
І цішыня,
Як стэтаскоп,
Да дня
Праслухвае граніцу...

## ЁСЦЬ ЗАГАД НА МАРШ

Гатоў я пацвердзіць:
Не конус мішэні,
Балею патопу
Прабілі зеніткі.
Вадой дажджавой залівае траншэі,
І войска, як губка,
Прамокла да ніткі.

Шляхі развязло ў пазіцыйных раёнах...
(Загад ёсць на марш —
І нам нельга марудзіць.)
Нат сопкі высокія
У шэрых каронах
Аблокаў
Загрузлі ў нізоўях па грудзі.

Ідзем цаліной,
Па крутых касагорах.
І крыем,
І шлем бездарожжа да д'ябла.
Зацягне хтось песню прастуджаным
горлам —
І песня замоўкне:
І песня азябла.

Уперад...
Уперад...
Шляхамі любымі...
Ад колаў сляды
І ад кірзавых ботаў...

На добрых мужчынскіх руках,
Як любімых,
Машыны й гарматы
Выносім з балота.

## КВЕТКІ ЛЯ АБЕЛІСКАЎ

Колькі вас,
Незнаёмых і блізкіх,
Так чакалі жаданай вясны?!.
Каравулам стаяць абеліскі
Над героямі грознай вайны.

Я пра тых белакосых і русых,
Што прыйсці да матуль не змаглі.
І кутка на зямлі Беларусі
Не знайсці
Без салдацкіх магіл.

І цякуць успаміны наплывам;
Моўчкі кветкі свае пакладу...
Да жанчын тут прыходзіць маўклівасць,
І трывожыць не трэба іх дум:

— Ой, сыны мае, сыночкі,
Паглядзіце на зару...
Вашы ясненькія вочкі
Вам закрылі не ў пару...

І каля абеліскаў аднойчы,
Калі бор сустракае зару,
Ціха
Макі расплюшчваюць вочы
Ад гарачых
Удовіных рук.

## АКОП НА МАЛЮНКУ

Акоп...
Як многа гільз варожых...
І — штык савецкага стралка!..
Мяне малюнак растрывожыў,
Як успамін франтавіка.

## Я ПРЫСЯГАЎ
## АДНОЙ ТАБЕ

Звісала сонца спелай дыняй.
Бы кот,
Мурлыкаў акіян.
І шызы дым ад шашкі дымнай
Поўз па распадку,
Як туман.

І аўтамат дзесь застракоча,—
Зусім не дзятла перастук.
І ціха зноў,
Што нават хочаш
Падслухаць, травы як растуць.

Між сопак
Ранак цёк з усходу
Цягуча-хмельны,
Быццам пунш.
Мы занялі атакай з ходу
«Праціўніка» апорны пункт.

Сінелі перыскопа лінзы,
І ў наваколлі ні душы,
І неўпрыкмет
Пустыя гільзы
Абжыць спяшалі мурашы.

Яны знайшлі сабе ратунак,
Хоць пахне порахам,
Вайной.

Дый не па мне шукаць затулак
І за чыёйсьці жыць спіной.

Пакуль што
Нас не джаліць дотык
Адчаю лютага
Ракет,
А з той вайны
Сівыя доты
Глядзяць пагрозліва на свет.

Зямля мая!
У час суровы
Цябе прыкрыць ад новых бед,
Нібы Матросаў,
Я гатовы...
Я прысягаў адной табе...

* * *

*Героям граніцы*

Нялёгкую службу салдата
Там кожны з адказнасцю нёс.
І выпала чорная дата
На іх непрадбачаны лёс.

Ніхто
Не асмужыць прасцягі
І нашых не схіліць сцягоў...
Мы звонкія словы Прысягі
Паўторым
За паўшых сяброў.

Мы помнім
Знаходкі і страты,—
Мы іншымі б
Жыць не маглі.
На вернасць Радзіме
Салдаты
Клянуцца
Ля брацкіх магіл...

## СВЕТ У АКНЕ

Нам за вучэнні ставяць «пяць»...
Іду дамоў.
Відаць праз лівень
Свет у акне.
Мае не спяць —
І я ўсміхаюся шчасліва.

Не грукаю і не званю,—
Памалу адчыняю дзверы,
Каб не трывожыць цішыню
І тых,
Хто ёй сягоння верыць.

З мяне сцякаюць капяжы,
Разносяць пах
Дажджлівай ночы.
Са спальні жонка ўжо бяжыць,
Суцешыць ласкай
Па-жаночы.

Накідку возьме падсушыць,
Паможа зняць сырыя боты —
І разальюцца па душы
Яе і ласкі і турботы.

Дачка прачнецца —
І праз сон
Узяць яе на рукі просіць;
Уткнецца носам у пагон,

Рукой абтросшы
З зорак росы.
Ёй раскажу пра дожджык я,
Што заўтра
Будзе цёплы золак,—
І спіць салодка немаўля
Каля зямных
Салдацкіх зорак.

## КОРАНЬ ЖЫЦЦЯ

Зайздрошчу вам,
Здабытчыкі жэньшэня,
Без сцежак,
Без дарог у вас жыццё.
Тайга —
І след пудлівага аленя
Выводзіць вас на рэдкае лісцё,

Не зжыцца вам з бязлюднасцю.
Аднекуль
Касцёр патухлы кліча да людзей.
І нельга потым шчасце,
Нібы лекі,
Адмерваць людзям кроплямі штодзень.

У вас бяру
Сумленнасць і праўдзівасць,
І сам гатоў шукаць да забыцця
Гаючасць слоў,
Што знойдуцца, як дзіва,
І стануць
Вечным коранем жыцця...

## КУРЫЛЫ

Халодная зямля — Курылы.
Там сум халодны,
Як граніт.
Мы не адразу тут адкрылі
Цяпло аддаленых граніц.

З размаху
Б'юць у душы хвалі,
Душа цвярдзей і за скалу.
Курылы!
Вас не кожны хваліць:
Жывуць скупыя на хвалу.

Тут у людзей
Адна работа:
Тут наш
Далёкі самы пост,
Дзе акіян бяжыць да ботаў,
Як верны і галодны пёс.

І зноў пасля начы бяссоннай
І службы важнай
У гарах,
Як немаўля,
Жывое сонца
Салдат трымае на руках.

## ЗІМОВАЕ

За тыдзень і дождж не адмыў
Дубоў пацямнелую медзь.
З начы ў прадчуванні зімы
Ніяк не прачнецца мядзведзь.

А зранку вароны крычаць...
Гадаю:
На дождж ці на снег.
То раптам вятры праімчаць,
То парна,
Нібы па вясне.

Раскрыла пушынкі вярба —
І заяц не хоча ліняць.
На возеры прагне рыбак
Злавіць напаследак ліня.

Як рэчка
Пад коркай ільду,
Як рост прыпыняе валун,—
І я запаволю хаду,
Прысяду на шэры валун.

Над сопкай
Яскравей відзён
Зялёны агонь кедрача.
Пачатак заснежаных дзён
Прывык
Па-дзіцячы страчаць.

Гляджу:
Серабрыць белы снег
Лістоты астылую медзь...
Мяне аж да раніцы ў сне
Малінай частуе мядзведзь...

## УПІШУ СВАЁ СЛОВА

Кніжны сон праганю...
Не!
Жыццё не зазубрыш.
Недзе юнаму дню
Горда трубяць ізюбры.

Ірванусяя,
Як птах,
За нязведанай з'явай.
Што было і не так —
Стане светлаю явай.

Мова
Поціскаў рук
Мне ясней за прамовы.
Праспявай,
Колаў стук,
Мне пра край амулёвы.

Абкуруся кастром
Ад таёжнага гнуса
І пайду напралом,—
Не ўпаду,
Не сагнуся.

Будзе строгасць траншэй,
Буйнасць сёмага поту.
Нібы корань жэньшэнь,
Сіл прыбавіць работа.

І сябе без ныцця
Я адкрываю нанова,
Толькі ў песню жыцця
Упішу сваё слова.

## ЗМЕСТ

### МАЯ ЗЯМЛЯ

*** А вы былі ў лясах сасновых... . . . . . . 5
Палешукі . . . . . . . . . . . . . . . . . 7
Кедравыя арэхі . . . . . . . . . . . . . . . 8
*** Я вырас там, дзе лес кранае... . . . . . . 9
Хлебароб . . . . . . . . . . . . . . . . 10
*** Нашто цябе сярод зімы... . . . . . . . . 11
Найда . . . . . . . . . . . . . . . . . 12
Першы пералёт . . . . . . . . . . . . . . 13
Хмары . . . . . . . . . . . . . . . . . 14
Асенняе . . . . . . . . . . . . . . . . 15
Тапаліны пух . . . . . . . . . . . . . . 16
Лось . . . . . . . . . . . . . . . . . 17
Дачка лесніка . . . . . . . . . . . . . . 18
Лета . . . . . . . . . . . . . . . . . 20
*** Двурогі месяц выплыў высака... . . . . . 21
Рабінавая ноч . . . . . . . . . . . . . . 22
Папары . . . . . . . . . . . . . . . . 23
Восень . . . . . . . . . . . . . . . . 24
У лесе . . . . . . . . . . . . . . . . 25
*** З нас кожны марыць аб планеце... . . . . 26
Пара сенакосу . . . . . . . . . . . . . . 27
Перад адлётам . . . . . . . . . . . . . . 28
*** Дзяўчына цераз рэчку ўброд... . . . . . . 29
*** Мне да купінкі знаёма... . . . . . . . . 30
*** Вясковыя хлопцы чубатыя... . . . . . . . 31
*** Завітае вясна ў лясы... . . . . . . . . 32

## КВЕТКІ ЛЯ АБЕЛІСКАЎ

А мы ўсім жадаем шчасця . . . . . . . . . 33
Салдацкі хлеб . . . . . . . . . . . . . . 34
Паштальён . . . . . . . . . . . . . . . 35
1917-ты . . . . . . . . . . . . . . . 36
*** У траве густой — па пояс... . . . . . . . . 37
*** На месяц здадзены турботы... . . . . . . . . 38
*** Ім цесным стане паднябессе... . . . . . . . . 40
Варажбітка . . . . . . . . . . . . . . 41
*** Штурмуюць войскі палігон... . . . . . . . . 42
*** Я службы пазнаваў асновы... . . . . . . . . 43
*** Граніцы слухаю дыханне... . . . . . . . . . 46
Ёсць загад на марш . . . . . . . . . . . . 47
Кветкі ля абеліскаў . . . . . . . . . . . 49
Акоп на малюнку . . . . . . . . . . . . 50
Я прысягаў адной табе . . . . . . . . . . 51
*** Нялёгкую службу салдата... . . . . . . . . 53
Свет у акне . . . . . . . . . . . . . . 54
Корань жыцця . . . . . . . . . . . . . 56
Курылы . . . . . . . . . . . . . . . 57
Зімовае . . . . . . . . . . . . . . . 58
Упішу сваё слова . . . . . . . . . . . . 60

**Ільюшчыц К.**

И48 **Армейскія будні. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1977 г.**

64 с. («Першая кніга паэта»)

Маленства Кастуся Ільюшчыца прайшло ў маляўнічым кутку Палесся — каля Чырвонага возера. Цяпер паэт служыць у Савецкай Арміі. Пра вялікую нашу Радзіму піша паэт, пра чалавека, які сваімі справамі ўпрыгожвае яе і абараняе.

И $\frac{70403\text{-}070}{М\ 302(05)\text{-}77}$ 67-77 **Бел 2**

Константин Николаевич Ильющиц

АРМЕЙСКИЕ БУДНИ

На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак А. Г. Званароў. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Н. А. Давыдзенка.

ИБ № 171.

АТ 10573. Здадзена ў набор 2/XII 1976 г. Падп. да друку 10/III 1977 г. Тыраж 2000 экз. Фармат $70 \times 90^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,34. Ул.-выд. арк. 1,72. Зак. 3812. Цана 18 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.